**Гродна**
№ 11 (422),
31 мая 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Прыйдзі, Дух Святы, і аднаві абліччa гэтай зямлі!


Урачыстае асвячэнне крыжа на месцы, дзе будзе пабудаваны новы касцёл

**Урачыстасць асвячэння крыжа і пляца пад будаўніцтва святыні ў гродзенскай парафіі Святога Духа адбылася 24 мая. На св. Імшу з гэтай нагоды прыбылі шматлікія вернікі, якія ствараюць парафіяльную супольнасць у мікрараёнах Фабрычны і Альшанка, першакамунійныя дзеці, ксяндзы, манаскія сёстры, клерыкі. Набажэнства ўзначаліў кс. бп Аляксандр Кашкевіч, ва ўрачыстасці таксама прыняў удзел дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Св. Імшу ўпрыгожыў сваім спевам хор "Cantate Domino".**

● працяг на с. 4

## Каляндар падзей

*1 чэрвеня* – пачатак чэрвеньскага набажэнства. Дзень абароны дзяцей.

*4 чэрвеня* – урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана Езуса (Божае Цела).

*7 чэрвеня* – Дзень бацькі ў дыяцэзіі.

*12 чэрвеня* – урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса. Сусветны дзень малітвы аб святасці святароў.

*10–11 ліпеня* – урачыстасць Адведзінаў НПМ у дыяцэзіяльным санктуарыі ў Тракелях.

## Запрашаем!

*"Сімвал веры"*
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***8 чэрвеня ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

***Дарагія Чытачы! У сувязі з водпускам чарговы нумар газеты выйдзе 12 ліпеня.***

# Быць адважнымі для Хрыста

**20–21 мая Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю наведаў Яго Эксцэленцыя ксёндз арцыбіскуп Хорхе Карлас Патрон Вонг, сакратар Кангрэгацыі па справах духавенства ў Ватыкане.**

● працяг на с. 5


Сэлфі алюмнаў з арцыбіскупам Хорхе

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

*Спосабы Вашай зацікаўленасці справамі сваёй парафіі:*

- ахвяраванне ў скарбонку
- ахвяраванне на рамонт і пакупкі
- удзел у акцыях міласэрнасці
- асабістая праца пры касцёле
- іншыя
- цяжка сказаць

Выкажыся

**Езу ціхі і пакорны сэрцам, учыні сэрцы нашыя да Твайго падобнымі!**




## НАЙСВЯЦЕЙШАЙ ТРОЙЦЫ

**Мц 28, 16–20**

Адзінаццаць вучняў пайшлі ў Галілею на гару, куды загадаў ім Езус. І калі Яго ўбачылі, пакланіліся Яму, але некаторыя засумняваліся. Тады Езус наблізіўся да іх і сказаў ім: "Дадзена Мне ўсялякая ўлада на небе і на зямлі. Дык ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Духа Святога. Вучыце іх захоўваць усё, што Я загадаў вам. І вось Я з вамі ва ўсе дні аж да скrandчэння веку".

## СЛОВА, ЯКОЕ ЗМЯНЯЕ НАШ СВЕТ

Услухоўваючыся ў словы Збаўцы, зноў захапляешся іх моцай і плённасцю. Некалькі радкоў, пара сказаў, прамоўленых амаль два тысячагоддзі таму, былі на працягу стагоддзяў і надалей застаюцца не толькі актуальнымі, але і эфектыўнымі! Абяцанне Езуса застацца са сваімі вучнямі аж да сканчэння свету датычылася, безумоўна, не толькі Апосталаў. Яго прысутнасць Касцёл адчувае па сённяшні дзень у сваёй радасці абвяшчаць Евангелле, дзяліцца плёнам уваскрасення. Хрыстос прысутны ў перамогах і поспехах сваіх сённяшніх вучняў. Ён ёсць таксама і ў іх складаным вопыце. А нават у паражэннях, каб яны не адчувалі сябе пераможанымі грахом і злом.

Касцёл не заўсёды ў гісторыі знаходзіў кемлівых вучняў для свайго навучання. Больш таго, часта здараліся перыяды бунту, супраціўлення Хрысту і Яго збаўчай справе. Але заўсёды хапала сэрцаў, адкрытых на Божае слова, Добрую Вестку. Хрысціяне будавалі свет, стварылі культуру, удзельнічалі ў яе развіцці, памнажалі дасягненні навукі.

У чым заключаецца таямніца тых працэсаў пранікання свету Евангеллем? "Мне дадзена ўся ўлада на небе і на зямлі", – сказаў Езус Апосталам. Касцёл прыгадвае нам гэтую праўду кожную нядзелю пры адпраўленні напаміну ўваскрасення. Каб мы ніколі не згубілі надзеі, што канчатковая перамога гарантавана словам Збаўцы.

## X НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мк 3, 20–35**

Езус з вучнямі прыйшоў у дом. І зноў сабраўся натоўп, так што яны не маглі нават хлеба паесці. Пачуўшы гэта, Яго родныя пайшлі забраць Яго, бо казалі, што Ён страціў розум. А кніжнікі, якія прыйшлі з Ерузалема, казалі, што Ён мае ў сабе Бэльзэбуба і выганяе дэманаў праз князя дэманаў.

А Езус, паклікаўшы іх, казаў ім у прыпавесцях: "Як можа сатана выганяць сатану?"

Калі валадарства раздзеліцца само ў сабе, не можа выстаяць такое валадарства. І калі дом раздзеліцца сам у сабе, не можа выстаяць такі дом. І калі сатана паўстаў супраць самога сябе і раздзяліўся, не можа выстаяць, але канец яму. Ніхто не можа ўвайсці ў дом асілка і выкрасці ягоныя рэчы, калі спачатку не звяжа асілка, і толькі тады абрабуе дом ягоны. Сапраўды кажу вам: дараваныя будуць сынам чалавечым усе грахі і блюзнерствы, якімі б ні блюзнерылі. Але хто будзе блюзнерыць супраць Духа Святога, не атрымае даравання ніколі, але падлягае вечнаму асуджэнню. Так сказаў, бо гаварылі пра Яго: "Ён мае нячыстага духа".

І прыйшлі Маці Яго і браты Ягоныя і, стоячы звонку, паслалі паклікаць Яго. Сядзеў каля Яго натоўп і казаў Яму: "Вось Маці Твая і браты Твае, і сёстры Твае на вуліцы шукаюць Цябе".

І сказаў ім у адказ: "Хто маці Мая і браты Мае?" І паглядзеўшы на тых, хто сядзеў вакол Яго, сказаў: "Вось маці Мая і браты Мае. Бо хто будзе выконваць волю Божую, той Мне брат і сястра, і маці".

## СКЛАДАНЫЯ ПЫТАННІ ВЕРЫ

Вось вынікі абвяшчэння Добрай Навіны: падазрэнне ў вар'яцтве, абвінавачванне ў змове са злым духам. Нічога дзіўнага, што ў такой сітуацыі самыя блізкія Езусу людзі – Яго Маці і сваякі – хацелі Яго неяк абараніць ад абвінавачванняў і небяспекі. Але і ў гэтым выпадку іх жэст зычлівасці быў сустрэты дзіўнай рэакцыяй з боку Езуса. Ці Марыя, якая непакоілася пра Яго, зразумела адказ Сына? Шуканне разумення мацней за ўсё балела пад крыжам...

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Шлях да добрага жыцця

**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*



Мы нястомна шукаем шляхі да лепшага жыцця. Але, на жаль, нават настроены на жыццёвую мэту GPS не аднойчы нас падводзіць, а ў картах нашага жыцця мы часта можам заблукаць. Многія з нас шмат разоў задумваліся над пытаннем: кудою вядуць дарогі да добрага жыцця? Чалавек заўсёды шукае розныя аргументы, каб зразумець сваё жыццё. Некаторыя кажуць, што мудрае жыццё з'яўляецца адначасова добрым, але добрае жыццё не абавязкова аказваецца мудрым. Яшчэ нікому не ўдавалася падлічыць, колькі існуе спосабаў для добрага жыцця, але бясспрэчна тое, што спосабаў жыць мудра яшчэ менш. Добрае і мудрае жыццё – гэта жыццё з Богам. Але як сярод нашай штодзённасці мы можам адшукаць шлях да жыцця з Богам?

У чэрвені ўвесь Касцёл звяртаецца ў малітоўным павеве да Сэрца Езуса. У чэрвеньскіх малітвах мы, хіба, не адзін раз будзем прасіць аб тым, каб і нашае сэрца было падобным на Яго Сэрца. Менавіта гэты, найлепшы прыклад Сэрца, становіцца для нас падказкай, як можна добра і мудра жыць тут, на зямлі. У Старым Запавеце тэрмін "сэрца" часцей за ўсё ўжываецца ў пераносным значэнні і мае тэалагічны сэнс. Яно выражае цэнтр духоўнага жыцця і найбольшую глыбіню чалавека. Гэта тое месца, дзе Бог сустракаецца з чалавекам, і ад гэтай сустрэчы залежыць вельмі многае. Сэрца можа стаць рассаднікам добрага жыцця, рассаднікам пачуццяў, думак і волі. Сэрца Езуса становіцца людскім скарбам на зямлі. Давайце прыгадаем адно з абяцанняў Хрыста, дадзенае св. Маргарыце: у Сэрцы Езуса "знойдуць яны ўсякую дапамогу, патрэбную ў іх стане...". Пан Езус пабуджае кожнага з нас шанаваць і любіць Яго Божае Сэрца.

Сучаснасць прыносіць нам мноства "сардэчных" хвароб. Самая небяспечная з іх – тая, што не дазваляе нам сустрэцца з Богам. Грэх і ўздзеянне д'ябла пагражаюць сэрцу кожнага з нас. Таму варта адкрыцца на Бога, каб ужо тут, на зямлі, нашае жыццё было мудрым і добрым, каб яно было благаслаўлёна Богам.

**На надыходзячы перыяд канікул для дзяцей і моладзі, а таксама водпускаў для дарослых хацелася б пажадаць Вам, дарагія Чытачы, не забывацца пра тое, што ў сэрцы чалавека Бог можа прысутнічаць заўсёды. А чалавек з такім сэрцам заўсёды будзе мець добрае і мудрае жыццё.**




*Галоўны алтар*

**ДЭКАНАТ ІЎЕ**

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*

# Іўе

## Касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла



*Інтэр'ер святыні*

● працяг з папярэдняга нумара

Інтэр'ер святыні, падзелены чатырма магутнымі слаістымі слупамі на тры навы і перакрыты крыжастым скляпеннем на падвоеных падпружных арках, як і раней упрыгожваюць сем алтароў. Галоўны алтар у выглядзе трыфорыума, дзе вялізнае Укрыжаванне атачаюць фігуры святых Пятра і Паўла, падзяляе прэзбітэрый на алтарную частку і хор законны. Цэнтральная частка алтара над гзымсам завяршаецца барокавым франтонам з гарэльефнай выявай Сыходжання Святога Духа і хусткі св. Веранікі ў акружэнні двух анёлаў з залатымі крыламі. Левы бакавы алтар прысвечаны Маці Божай Анёльскай і св. Францішку, правы – Ахвяраванню Маці Божай. З паўночнага боку да касцёла далучаецца капліца Маці Божай Снежнай з аднайменным алтаром (раней абраз быў атачаны шматлікімі вотамі). Яшчэ тры алтары ўсталяваны пры сценах малітоўнай залы: злева – св. Антонія, справа – св. Францішка (магчыма, пэндзля вядомага мастака Чаховіча) і св. Ганны.

З паўночнага боку да касцёла далучаўся, утвараючы ўнутраны двор-клаўструм, двухпавярховы кляштар калідорнай планіроўкі і складанай канфігурацыі. Кляштарныя карпусы былі накрыты вальмавымі дахамі. Пры кляштары дзейнічалі шпіталь і школа, мелася вялікая бібліятэка на 500 тамоў. Дзейнічаў таксама парафіяльны шпіталь, які фундаваў Лявон Кішка.

На дарозе на Суботнікі бернардыны пабудавалі ў XVIII ст. прыдарожную каплічку-слупок – трох'яруснае атынкаванае збудаванне з цэглы ў стылі барока, завершанае крыжам. На жаль, да нашых дзён каплічка не захавалася. Была ў той час і капліца ў сядзібным комплексе Агінскіх, тагачасных уладальнікаў Іўя. Капліца злучалася галерэяй з мураваным скарбцам, у алтары знаходзілася разьбяная пазалочаная фігура Маці Божай.

У 1857 г. бернардынскі кляштар у Іўі быў зачынены, а манахі высланы. Касцёл перайшоў у ранг проста парафіяльных, а ў кляштарных мурах было адчынена парафіяльнае вучылішча і зроблена плябанія.

У XIX ст. да іўеўскай парафіі належалі філіяльны касцёл у Дудах, капліцы на мясцовых могілках і ў в. Ятоўтавічы (апошняя цяпер далучана да юрацішскай парафіі). Капліца на могілках пад тытулам св. Барбары была пабудавана на сродкі графіні Замойскай у першай палове XIX ст. у стылі класіцызм з бутавага каменю і цэглы, прамавугольная ў плане з паўцыркульнай алтарнай часткай, накрыта двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром. Галоўны фасад вырашаны ў выглядзе чатырохкалоннага порціка. Інтэр'ер перакрыты скляпеністай падшыўной дашчанай столлю. Хоры, што абапіраліся на два цагляныя слупы над уваходам, былі разабраныя падчас рэстаўрацыі 1970-х гг.

За польскім часам да іўеўскай парафіі далучылася капліца ў в. Урцішкі, касцёл у Дудах стаў цэнтрам асобнай парафіі. Перад ІІ Сусветнай вайной колькасць вернікаў парафіі перавышала 10600 чалавек.

Петрапаўлаўскі касцёл перажыў усе бурлівыя падзеі XX ст., дзейнічаў увесь час. Дзейнічае і сёння, залічаны да помнікаў архітэктуры рэспубліканскага значэння. Ад кляштарнага корпуса захаваліся толькі заходняя лінія і частка, далучаная да прэзбітэрыя касцёла. Некалькі гадоў таму тут яшчэ былі жылыя пакоі, але сёння будынак ужо цалкам вернуты парафіі.



**Асабліва ў чэрвені ўсе вернікі накіроўваюць свой позірк на Найсвяцейшае Сэрца Езуса. Яно паказвае самыя розныя вымярэнні любові. Гэта параненае Сэрца, прабітае, напоўненае знявагай і болем, але адначасова – жыццё і ўваскрасенне, збавенне для тых, хто даверыўся яму, і крыніца ўсякага суцяшэння. Літанія да Найсвяцейшага Сэрца Езуса складаецца з 33 заклікаў для ўвекавечання 33 гадоў жыцця Езуса Хрыста. Іх змест выражае збаўчы план любові Бога да чалавека.**

# Крыніца жыцця і святасці

На працягу стагоддзяў многія Папы навучалі, што культ Найсвяцейшага Сэрца Езуса – гэта не проста адно з многіх набажэнстваў, але – побач з Эўхарыстыяй – вяршыня набожнасці і пераказ усёй хрысціянскай рэлігіі. Каб лепш зразумець сэнс гэтага набажэнства, варта прывесці выказванні аб ім некаторых наступнікаў св. Пятра. Леў XIII бачыў у ім сімвал і жывы вобраз бясконцай любові Езуса да вернікаў і самую праверанyю форму рэлігійнасці. Пій XI бачыў у гэтай форме пабожнасці суму, змест нашай рэлігіі і норму дасканалага жыцця, таму што набажэнства да Сэрца Езуса лепш за ўсё вядзе да больш дасканалага пазнання Хрыста, да глыбейшага замілавання да Яго і перайманне. Святы Айцец Бенедыкт XVI казаў аб тым, што "кожнаму чалавеку неабходны які-небудзь «цэнтр» жыцця, крыніца праўды і дабрыні, адкуль можна чэрпаць у розных сітуацыях, якія змяняюцца, і ў цяжкасцях штодзённасці. Кожнаму з нас, калі мы застаёмся ў цішыні, неабходна адчуваць не толькі біццё ўласнага сэрца, але – яшчэ глыбей унутры самога сябе – пульсацыю сэрца свету, беспамылковай прысутнасці Хрыста, якая адчуваецца пачуццямі веры, але з'яўляецца намнога больш рэальнай".

Сэрца Езуса, укрыжаванага і ўваскрослага, з'яўляецца невычэрпнай крыніцай ласкаў. Яно перапоўнена любоўю Бога Айца, на якога заўсёды можна разлічваць. У набажэнстве да Сэрца Езуса Касцёл з аднаго боку бачыць знак любові Бога да людзей, а з другога – хоча адначасова абудзіць у людскіх сэрцах узаемную любоў да Бога. Асабліва ў наш час, калі вялізную ролю адыгрывае сведчанне аб жывой веры ўсіх членаў Касцёла, як свецкіх, так і духоўных, нам трэба няспынна ўглядацца ў Сэрца Збаўцы. Менавіта яно з'яўляецца сімвалам самай дасканалай любові, бескарыслівай, гатовай да ахвяр і адрачэнняў. Толькі такая сапраўдная любоў робіць чалавека здольным да веры, якая выражаецца ў канкрэтных учынках. Яна таксама вядзе да перамены чалавечага сэрца і фарміраванні яго па ўзоры Божага Сэрца.

> **"Маё Божае Сэрца так палае любоўю да людзей, што не можа даўжэй утрымаць гэтых гарачых промняў, замкнёных у Маім улонні. Яно жадае разліць іх з тваёй дапамогай і ўзбагаціць людзей сваімі Божымі скарбамі". "У Ім людзі знойдуць усё, што ім будзе неабходна для выратавання сваіх душ з бездані пагібелі".**
>
> *Словы Езуса падчас першага аб'яўлення (27 снежня 1673 г.) Марыі Малгажаце Алякок*

У пошуку лякарства ад крызісу веры ў сучасным свеце арцыбіскуп Андрэ Леанар, прымас Бельгіі, заахвоціў вярнуцца ў цэнтр – у Сэрца. Ён піша, што "пунктам, дзе ўсё сканцэнтравана, пунктам, з якога ўсё выплывае, полымем усяго хрысціянскага жыцця і жыцця Касцёла з'яўляецца Сэрца Хрыста. Толькі тады, калі мы зноў паглыбімся ў гэтую крыніцу, мы будзем мець неабходныя сілы, каб, з аднаго боку, супрацьстаяць сучаснаму свету, а з другога – дастасоўвацца да яго".

Развіццё культу Найсвяцейшага Сэрца Езуса дазваляе чалавеку адкрыць сапраўднае аблічча Бога, які яго любіць, і які годны любові. Яно садзейнічае святасці чалавека і яго аб'яднанню з Богам і адначасова дае яму магчымасць адкрыць дар: дзяліцца любоўю з іншымі. Дзякуючы гэтаму мы станем больш уражлівымі на грэх і нібы прыспешанымі ў імя любові змагацца з ім і ўзнагароджваць за тых, хто раніць Божае Сэрца, мы адчуем узаемную адказнасць за кожнага з нас.

З Божай любові існуе ўвесь Сусвет і чалавечы род. Яна з'яўляецца крыніцай, з якой усё бярэ свой пачатак і ўвесь час чэрпае сілы для жыцця. Мы павінны чэрпаць з гэтай крыніцы бясконцай і дасканалай любові, каб станавіцца лепшымі людзьмі. Мы павінны звяртацца да Божага Сэрца ва ўсіх сваіх патрэбах, даручаць розныя свае справы, прасіць прабачэння за грахі і недасканаласці, а таксама дзякаваць за багацце атрыманых дароў і ласкаў.

***Таццяна Радзюк***




# На Бога заўсёды можна паспадзявацца



***Сёння сваю гісторыю распавядае сястра Іерамія з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.***

## Актыўнае парафіяльнае жыццё

Сястра Іерамія нарадзілася ў горадзе Гродна. Паходзіць з сям'і працоўнага і бухгалтара. Бацькі мелі дваіх дзяцей: дзяўчынку і малодшага хлопчыка.

Кожную нядзелю ўся сям'я ішла ў пабернардынскі касцёл. У будні дзеці наведвалі заняткі рэлігіі. Ва ўзросце 8 гадоў дзяўчынка прыступіла да Першай святой Камуніі.

*"Пакуль жыла бабуля, мы заўсёды былі ў касцёле, – успамінае сястра Іерамія, – былі побач з алтаром. А потым я стала хадзіць самастойна... Далучылася да членаў руху "Святло Жыцця", якая збіралася для разважання над Святым Пісаннем. А праз нейкі час у парафіі сфарміраваўся "касцяк" актыўнай моладзі, у які ўваходзіла і я".*

Маладыя людзі ездзілі на сустрэчу з папам Янам Паўлам II у Чанстахову, сустракаліся з айцамі салезіянамі, прымалі ружанец, перыгрынацыя якога адбывалася па ўсяму Савецкаму Саюзу.

*"Мы заўсёды былі там, дзе толькі можна было быць. Сябравалі, дапамагалі адзін аднаму па вучобе. Раз на тыдзень сустракаліся на катэхезе з сястрой і амаль штодзённа прыходзілі ў касцёл".*

## Заручыны з Богам

У чарговую гадавіну расстрэла 11 сясцёр назарэтанак у 1991 годзе дзяўчына была прынята ў пастулят. Разам з ёю былі яшчэ тры сяброўкі з "парафіяльнага касцяка".

*"Сёстры ведалі нас. Ім было радасна".*

З 1993 года – навіцыят, у 1995 годзе – першыя шлюбы. Урачыстасць складання вечных шлюбаў адбылася ў тым жа пабернардынскім касцёле 19 жніўня 2000 года.

*"Мы былі першымі ў Беларусі сёстрамі назарэтанкамі, якія прыйшлі ў супольнасць адразу з-за школьнай лавы".*

## Дапамагчы духоўна

Спачатку сястра працавала ў пабернардынскім касцёле, ездзіла ў Путрышкі, Верцялішкі, Панямунь праводзіць катэхезу для дашкалят. Затым тры гады працавала з дзецьмі ў фарным касцёле ў Лідзе. Пасля на працягу дзесяці гадоў служыла ў аплаткарні ў Навагрудку. З 2012 года сястра Іерамія працуе ў дыяцэзіяльнай краме ў горадзе Гродна.

*"Людзі прыходзяць сюды са сваімі патрэбамі. Часта шукаюць не проста дапаўненне ў інтэр'ер, а духоўную параду. Раяцца, як зрабіць лепш. Часам даводзіцца некага пераконваць, што свечка не ўратуе. Не бывае такога, што паклаў абразок у кашалёк – і ўсё па жыцці будзе добра. Тлумачу сутнасць духоўных рэчаў".*

Дзякуючы настаўленням маці, яшчэ да паступлення ў пастулят сястра мела за плячыма скончаныя курсы польскай мовы і спецыльнасць прадаўца. Відавочна, гэта як нельга лепей выкарыстоўваецца сёння сястрой у манаскім жыцці.

## Дзякуючы Богу

*"З часам я разумею: гэта дзякуючы Богу я такая, якой зараз з'яўляюся. Нават прыходжу да думкі, што, клічучы да сябе, Бог засцерагае нас ад чагосьці".*

Сястра ўпэўнена, што на Бога заўсёды можна паспадзявацца. Ён дае роўна столькі, колькі чалавек можа вытрымаць.

*"Я жыву ў манастыры і маю блізкі кантакт з Усявышнім, я магу размаўляць з Ім на любыя тэмы. А чым бліжэй адносіны з Богам, тым смялей мы можам звяртацца да Яго з банальнымі праблемамі".*



*Першая св. Камунія ў Казловічах, 26 мая 1996 г.*

У размове сястра прызнаецца, што вечерам на малітве ўспамінае ўсіх людзей, якія праз яе праходзяць. Гэта яна лічыць адной з пераваг манаскага жыцця: знаходзячыся бліжэй да Бога, сястра прагне дапамагчы акружаючым.

***Ангеліна Пакачайла***

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Мы павінны трываць ва ўваскрослым Хрысце і ў Яго любові, як нам гэта прыгадвае Першае пасланне св. Яна: "Хто жыве ў любові, той жыве ў Богу, і Бог – у ім" (1 Ян 4, 16). Езус паўтарыў гэта сваім вучням з напорам: "Заставайцеся ўва Мне (...) Заставайцеся ў Маёй любові" (Ян 15, 4.9). Гэта таямніца святых: заставацца ў Хрысце, з'яднанымі з Ім, як галінкі з вінаградная лазой, каб прынесці багаты плён (параўн.: Ян 15, 1–8). А гэты плён – нішто іншае, як любоў.*

*Адносіны з уваскрослым Езусам з'яўляюцца "атмасферай", у якой жыве хрысціянін, у якой ён знаходзіць сілы, каб застацца верным Евангеллю, нават сярод цяжкасцей і непаразуменняў.*

*Фрагмент гаміліі Святога Айца падчас кананізацыі чатырох манаскіх сясцёр*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Некаторыя лічаць, што малітва – гэта пустая трата часу, які можна выкарыстаць для працы ці адпачынку.*

*Мы патрабуем як малітвы, так і працы, і адпачынку. Успомнім, што сказаў Езус Марце, якая служыла Яму тады, калі Марыя слухала Яго вучэнне: "Марта, Марта, ты клапоцішся аб многіх рэчах, а табе патрэбна толькі адно. Марыя выбрала лепшую частку, якая не будзе адабрана ад яе".*

*Калі мы не молімся, то ў нашым жыцці наступае пустэча і мы не адчуваем сябе шчаслівымі. Статыстыка самазабойстваў сведчыць аб тым, што і вельмі багатыя і развітыя краіны не пазбаўлены такіх трагедый. Гэта знак таго, што само багацце не гарантуе шчасця.*

*Фрагмент гаміліі на VII Велікодную нядзелю*




◆ Вядомы італьянскі сацыёлаг праф. Масіма Інтравеню ў сваёй прамове падчас адкрыцця ў Вене ІІ Міжнароднай канферэнцыі арганізацыі бяспекі і супрацоўніцтва ў Еўропе, прысвечанай прадухіленню і барацьбе з нецярпімасцю ў адносінах да хрысціян, сказаў, што ў Еўропе ўвесь час расце хрысціянафобія – праследаванне вызнаўцаў Хрыста. Праф. Інтравеню падкрэслівае, што праследаванне вызнаўцаў Хрыста на нашым кантыненце з'яўляецца фактам. Статыстыка паказвае, што ў Еўропе адбываюцца напады, зневажэнне касцёлаў, скіданне ці знішчэнне помнікаў. Даныя таксама пацвярджаюць, што злачынстваў, здзейсненых ад нянавісці да хрысціян, з кожным годам становіцца ўсё больш.

◆ Рада біскупскіх канферэнцый Еўропы (CCEE) арганізавала сустрэчу, прысвечаную тэме дыялогу хрысціянства і ісламу, у якой удзельнічалі біскупы і дэлегаты канферэнцый епіскапатаў краін Еўропы па справах кантактаў з ісламам. Падчас чарговай сустрэчы было сказана, што хрысціянска-мусульманскі дыялог не толькі абавязковы для ўсталявання міру, але і з'яўляецца наказам нашай веры.

◆ У Расіі, на Урале, улады забаранілі каталіцкай парафіі арганізацыю "акна жыцця". У рапарце, які растлумачвае гэтую сітуацыю, пададзена, што ў Расійскай Федэрацыі абавязвае Сямейны кодэкс, які ясна акрэслівае, што пакінутымі без апекі немаўлятамі могуць займацца толькі адпаведна падрыхтаваныя медыцынскія і санітарныя службы. На сённяшні дзень у Расіі дзейнічае 16 "акон жыцця". Статыстычныя даныя падаюць, што з 2011 года ў іх было пакінута 17 дзяцей. Некалькі былі вернуты бацькам. Некаторыя "вокны жыцця" дзейнічаюць пры праваслаўных цэрквах, і ніхто не збіраецца іх ліквідаваць.

◆ У атэлі "Калумбус" у Рыме ў сувязі з набліжаючымся сінодам адбылася прэс-канферэнцыя на тэму новай публікацыі ў абарону каталіцкага навучання ў сям'і. Кнігу падрыхтавалі біскупы з Бразіліі, Злучаных Штатаў і Казахстана. Яе аўтарамі з'яўляюцца 3 біскупы: абп Альда ды Ціла Пагота з Бразіліі, бп Роберт Фрэнсіс Васа з ЗША і бп Афанасій Шнайдэр з Казахстана. Аўтары супрацьстаяць прапанавам, якія запавядаюць далёка ідучыя змены ў жыцці Касцёла. Біскупы падкрэсліваюць, што душпастарства ніколі нельга аддзяляць ад навучання. Іерархі заўважаюць, што нягледзячы на запэўніванні аб захаванні дактрыны некранутай, на практыцы "душпастарская" змена азначае таксама змену каталіцкага разумення сужэнства.

pch24.pl; Gosc.pl; katolik.ru; niedziela.pl

**Кс. Ян Раманоўскі**

# Прыйдзі, Дух Святы, і аднаві аблічча гэтай зямлі!



*На ўрачыстасць прыбылі шматлікія святары з розных парафій, у тым ліку ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі кс. бп Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп Юзаф Станеўскі*

● працяг са с. 1

**Асвячэнне крыжа і зямлі пад будаўніцтва новага каталіцкага касцёла ў горадзе над Нёманам адбывалася ў вельмі сімвалічны для парафіі Святога Духа дзень – ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа, у пяцідзясяты дзень пасля Уваскрасення Пана.**

Перад распачаццем св. Імшы мясцовыя вернікі, якіх без сумненняў можна назваць сапраўднай парафіяльнай супольнасцю, паколькі яны ведаюць адзін аднаго, іх яднае супольная малітва, супольнае праслаўленне Бога, узаемапавага і гатоўнасць дапамагчы, прывіталі гасцей, што прыбылі на ўрачыстасць. Затым кс. Валерый Быкоўскі прыгадаў сабраным гісторыю парафіі.

Потым распачалася першая ўрачыстая св. Імша на пляцы, дзе ў будучыні будзе пабудаваны новы касцёл. Прамаўляючы гамілію, кс. бп Аляксандр Кашкевіч звярнуў увагу на тое, што ўрачыстасць Спаслання Святога Духа з'яўляецца вялікім святам для Касцёла. Езус Хрыстус спаслаў Духа на Касцёл, таму што з Яго прыходам Ён звязваў вялікія надзеі. Падчас Апошняй Вячэры, перад абліччам хуткай Мукі, Смерці і Уваскрасення, Езус сказаў сваім вучням: "Лепш для вас, каб Я адышоў. Бо калі Я не адыду, Суцяшыцель не прыйдзе да вас. [...] Калі ж прыйдзе Ён, Дух праўды, навучыць вас усёй праўдзе" (Ян 16, 7.13).

*"З гэтых слоў Езуса вынікае, што Святы Дух патрэбны нам, перш за ўсё, як Суцяшыцель, які ўзмоцніць нашу веру, узбагаціць нас звышнатуральным жыццём, асвеціць гарызонты нашага мыслення, часта такога зямнога, напоўненага страхам і няўпэўненасцю,* – казаў душпастар. – *І вось, праз пяцьдзясят дзён пасля ўнебаўшэсця Езуса Яго абяцанне здзяйсняецца: Святы Дух зыходзіць на Апосталаў і поўнасцю пераменяе іх сэрцы. Гэтая група перапалоханых і няўпэўненых у сабе вучняў раптам перастае баяцца, адчыняе дзверы вячэрніка і выходзіць наружу, пачынае мужна абвяшчаць навіну аб уваскрослым Хрысце. Разам са Святым Духам у сэрцы Апосталаў увайшла моц Хрыста, якая дазволіла ім стаць Яго сведкамі, абвеснікамі Яго навукі. Апостальскай працы няма там, дзе няма веры ў яе паспяховасць. Такую перамену Дух здзейсніў у вучнях Езуса ў дзень Пяцідзясятніцы",* – падкрэсліў кс. бп Аляксандр.

Іерарх таксама адзначыў, што свята Спаслання Святога Духа – гэта не толькі ўспамін Пяцідзясятніцы, якая стала нібы днём нараджэння Касцёла, днём распачацця яго місіі абвяшчэння Божага слова і сведчання пра Хрыста. Гэтае свята з'яўляецца ў першую чаргу напамінам, што Святы Дух прыходзіць таксама да нас, калі мы Яго заклікаем, каб мы маглі сведчыць пра Хрыста. Ён дадае нам адвагі і мужнасці, каб абвяшчаць Евангелле і жыць ім на кожны дзень. Тое, чаго мы не здолеем зрабіць самастойна, мы здзейснім пры дапамозе Святога Духа.

*"Гэта не выпадкова, што ўваскрослы Хрыстос дае Апосталам Святога Духа ў вячэрніку, менавіта ў тым месцы, у якім Ён памыў ім ногі, накарміў сваім Целам і напаіў сваёй Крывёй, дзе ўстанавіў сакрамант святарства. Ён зрабіў гэта для таго, каб Апосталы і іх паслядоўнікі зразумелі, што ўсё самае дарагое для хрысціяніна ўзяло свой пачатак у вячэрніку",* – сказаў ксёндз біскуп.



*Падчас працэсіі з дарамі вернікі ўручылі цаглінку з муру старой капліцы*

Душпастар таксама засяродзіў увагу вернікаў на тым, што касцёл, які ўзнікне ў парафіі Святога Духа, таксама будзе парафіяльным вячэрнікам, куды вернікі будуць прыходзіць, каб атрымаць ад Хрыста ласкі, Яго збаўчае Слова і Найсвяцейшае Цела. У гэтым касцёле можна будзе адчуць Божую моц у святых сакрамантах.

*"Вы будзеце прыходзіць у гэты касцёл цэлымі сем'ямі, каб яны былі моцныя Богам і каб адчуць, што разам вы з'яўляецеся членамі іншай, яшчэ большай сям'і – парафіі. У гэтым парафіяльным вячэрніку вы будзеце вучыцца сустракаць Хрыста ў іншым чалавеку, прыходзіць да яго з дапамогай, дзяліцца з ім радасцю веры. Як Апосталы, сабраныя ў вячэрніку ў чаканні спаслання Святога Духа аднадумна трывалі на малітве, так вы будзеце аднадумна прасіць Хрыста аб стойкасці ў веры для сябе і для сваіх блізкіх, а таксама аб дары веры для тых, хто яшчэ яе не мае",* – падкрэсліў іерарх. Ён таксама заклікаў, каб вернікі не баяліся выклікаў, звязаных з пабудовай новага касцёла, хоць гэта вялікае і складанае заданне, якое патрабуе мноства сіл, працы і ахвяры.

*"Я веру, што Святы Дух, заступнік вашай парафіяльнай супольнасці, адорыць кожнага з вас святлом, мужнасцю, сіламі і надзеяй. Як некалі Апосталы, так і мы сёння змагаемся з рознымі цяжкасцямі і праблемамі. Нам часта пагражае роспач, недахоп адвагі, няўпэўненасць. У такія хвіліны давайце прыгадаем сабе, што хоць мы і слабыя, пры дапамозе Святога Духа мы можам стаць моцнымі. Ён памножыць нашыя сілы, трэба толькі адкрыцца на Яго ўздзеянне. Прыйдзі, Святы Дух, і аднаві аблічча гэтай зямлі!"* – падсумаваў кс. бп Аляксандр.

Затым ардынарый дыяцэзіі разам з кс. б-пам Юзафам Станеўскім здзейснілі асвячэнне крыжа і зямлі пад будаўніцтва касцёла.

Варта таксама адзначыць, што падчас св. Імшы вернікі аддалі сваю парафію пад апеку Святога Духа. Сімвалічным жэстам гэтага стала тое, што кс. бп Аляксандр выпусціў трох белых галубоў.

На заканчэнне набажэнства пробашч парафіі кс. Павел Салабуда выказаў надзею, што касцёл, які будзе ўзнесены на асвечаным пляцы, будзе цэнтрам жыцця новай парафіі. Кс. Павел таксама падзякаваў вернікам за тое, што на працягу доўгага часу, молячыся каля старой капліцы пад адкрытым небам, яны былі жывымі сведкамі Хрыста. Ён накіраваў словы ўдзячнасці айцам францішканцам, якія раней апекаваліся капліцай, і падзякаваў усім, хто ўдзельнічаў у падрыхтоўцы ўрачыстасці, а таксама ўсім вернікам, якія прыбылі на Імшу.

Фінальным акордам урачыстасці стаў канцэрт семінарыйнага гурта "AVE".

**Кінга Красіцкая**

# Быць адважнымі для Хрыста

● працяг са с. 1

*"Быць адважнымі для Хрыста, каб спаўняць Яго волю – вось да чаго мы ўсе пакліканы"*, – падкрэсліў арцыбіскуп падчас святой Імшы ў семінарыйнай капліцы. *"Еднасць нашага паклікання і служэнне Богу і людзям павінна быць галоўнай мэтай нашай фармацыі"*, – дадаў ён.

Падчас свайго візіту ксёндз арцыбіскуп прыняў удзел у маёвым набажэнстве ў семінарыйнай капліцы, у святой Імшы, а таксама двойчы сустрэўся з выхавацамі і клерыкамі ў канферэнц-зале. Пытанні, якія падымаліся падчас сустрэч, былі вельмі розныя, але датычыліся аднаго – фармацыі клерыкаў у гродзенскай семінарыі.

Навучэнцы Гродзенскай ВДС вельмі цёпла сустрэлі пасланніка Ватыкана і нават падрыхтавалі яму песню на іспанскай мове. Таксама падчас развітання з арцыбіскупам на падворку семінарыі не сціхала гітара і спеў.

Арцыбіскуп Хорхе аказўся вельмі "сучасным" чалавекам: ён самастойна вядзе акаўнты ў Інстаграме, Фэйсбуку і Твітары, а таксама робіць сэлфі (фотаздымкі ад першай асобы) з семінарыстамі са ўсяго свету. Так, за месяц май ксёндз арцыбіскуп наведаў чатыры кантыненты.

*"Хачу, каб вы памяталі, што вы не адзінокія, па ўсім свеце я сустракаюся з клерыкамі розных семінарый – у Афрыцы, Аўстраліі, ЗША, Еўропе, Лацінскай Амерыцы. Вас усіх яднае супольная місія – радаснае служэнне Хрысту і абвяшчэнне Яго Евангелля"*, – сказаў арцыбіскуп падчас агульнай сустрэчы з клерыкамі.

Пасля ад'езду Яго Эксцэленцыі ў хуткім часе з'явіўся запіс у Твітары, дзе ксёнз арцыбіскуп шчыра дзякаваў за адкрытасць, добры і радасны настрой, які стварылі яму клерыкі нашай семінарыі.

***Кл. Вадзім Каўтанюк***




Здымак і запіс у Твітары арцыбіскупа

## Юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 25-годдзя семінарыі ў Гродне

***17 чэрвеня адбудуцца юбілейныя ўрачыстасці з нагоды 25-годдзя з часу заснавання Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне.***

Праграма:

9.30 – прывітанне гасцей і ўступнае слова (рэктар ВДС кс. Раман Рачко);
- кароткая справаздача з дзейнасці семінарыі на працягу 25 гадоў (прэфект кс. Віталій Сідорка);
- спеў хору;
- прамова біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча;
- прамовы сяброў і дабрачынцаў ВДС у Гродне;

12.00 – святая Імша ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа (пабернардынскі);
13.45 – абед;
15.00 – асвячэнне і адкрыццё памятнай дошкі (зала св. Яна Паўла II);
- уручэнне памятных кніг і дыпломаў дабрачынцам ВДС;
- канцэрт музычнага гурта "AVE" і святочная кава;
- заканчэнне.



***Да ўдзелу ва ўрачыстасцях запрошаны святары-выпускнікі ВДС у Гродне.***




*16 мая в г. Мосты, в костёле Матери Божьей Трижды Чудесной, прошли очередные духовные упражнения для мужчин. Их организатором был кс. Виктор Ханько, который также является духовным попечителем международного движения «Мужчины святого Иосифа» в Гродненской епархии. Мужчин собралось немного, 18 человек, но это были те мужчины, которые действительно ищут Бога, ищут отношения с Ним, хотят и учатся жить в любви Божьей, которые, в конце концов, не хотят больше играть в религию, а стремятся жить настоящей верой и быть свидетелями Иисуса Христа.*

*Изначально тема реколлекций должна была быть "Господь каждый день". По сути, она такой и вышла, но вот что интересно, основой послужила тематика любви. Кс. Виктор провёл две лекции, а затем предоставил слово и мне. Мы изначально не договаривались, о чём будем говорить, но Господь в очередной раз сделал так, как Ему угодно. Он просто дал нам одинаковую цель повествования. Я тоже говорил о любви, а скорее свидетельствовал о том, как Господь действовал в моей жизни на протяжении последних дней и какой вопрос поднял в моих размышлениях.*

*Кс. Виктор также привёл пример наших отношений с Богом и доверия к Нему на образе Авраама. Казалось, что Авраам каждый день был с Богом, и Господь избрал его. Но Авраам не всегда доверял Господу, как это было в случае с приходом в Египет, когда Авраам из-за боязни и недоверия Богу попросил свою супругу Сару представиться его сестрой, а не женой.*

*Всё было разложено по полочкам, и то, что часто ускользает от нашего внимания во время изучения Писания, кс. Виктор подробно объяснил. Нам также нужно научиться не только слушать и слышать Господа, но и доверять Ему во всех аспектах нашей жизни.*

*Во время реколлекций мы услышали множество свидетельств. Личные свидетельства всегда глубже проникают в наши сердца. Ведь не зря папа Франциск повторял неоднократно, что Церковь нуждается не в учителях, а именно в свидетелях веры. Свидетелями веры сегодня являются не только священники, но и миряне – мы с вами. Порой это у нас не очень хорошо получается, но если мы не будем совершенствоваться и перестанем быть свидетелями Иисуса, то наши походы раз в неделю на Мессу превратятся просто в игру – игру в религию. А Иисус призывал нас свидетельствовать: «Вы примете силу, когда сойдет на вас Дух Святой; и будете Мне свидетелями (...) даже до края земли» (Деяния 1, 8). Если мы приняли Святого Духа, то реализация второй части стиха является нашей обязанностью. Мы не должны бояться говорить и свидетельствовать о том, как Господь действует в нашей жизни. Нам необходимо больше прославлять Его в псалмах и песнях, больше изучать Писание, в котором есть ответы на все вопросы, укреплять свой дух через пост и молитву, и, наконец, жить в любви Божьей.*

*После свидетельств нас ожидал очень вкусный совместный обед (спасибо Ольге за её посвящение), а затем была конференция в стиле вопрос-ответ, где каждый мог задать любой вопрос и получить на него ответ. После конференции была адорация с размышлениями, благодарением, поклонением и прославлением в адрес Господа нашего Иисуса Христа. В завершение встречи состоялась молитва. Мы, разбившись по группам, молились друг за друга. Это было замечательное время, когда ты стоишь перед Христом на коленях, ощущаешь крепкие братские руки на своих плечах, и осознаёшь огромную силу единства мужской молитвы. После кс. Виктор благословил нас Пресвятыми Дарами, и наступил небольшой перерыв перед святой Мессой. Во время перерыва была возможность исповедоваться пред Господом, которой многие охотно воспользовались. А затем наступил момент кульминации субботнего дня – Месса, литургия слова и Евхаристия.*

*Хотелось бы также акцентировать внимание на звучании песен прославления и поклонения: мужские голоса, разливающиеся под сводами храма – это то, что производит особое впечатление и чего так не хватает в наших храмах.*

*Господь призвал мужчин быть священниками в своих домах. Являемся ли мы таковыми? Отдаём ли мы себе отчёт в этом? В Мостах я увидел 18 мужчин, идущих в направлении познания и реализации воли Божьей в их жизни: бытия свидетелями Бога, людьми веры, священниками в семьях, любящими мужьями и отцами.*

***Друзья, мы, мужчины святого Иосифа, приглашаем вас на наши встречи, которые проходят уже в трёх приходах нашего города: в микрорайонах Девятовка, Южный и в кафедральном костёле. Также встречи проходят в фарном костёле в городе Лида.***

***Мужчины святого Иосифа выражают огромную благодарность кс. Виктору Ханько за его попечительство над нами, за его старания и организацию реколлекций. Мы ждём новых выездов с новыми темами и новыми свидетельствами.***

***Анатолий Канарский, Гродно***







### Міжнародная пілігрымка ваенных

***12 тысяч чалавек з 40 краін прынялі сёлета ўдзел у міжнароднай пілігрымцы салдатаў і сілавых служб у Лурд.***

*Арганізаваная ўжо ў 57-ы раз штогадовая падзея сабрала пілігрымаў у мундурах, у тым ліку таксама хворых і раненых. Падчас побыту ў Лурдзе 42 дарослых асобы прынялі хрост, а 70 – сакрамант канфірмацыі. Падзея скончылася міжнароднай Імшой, адпраўленай у санктуарыі.*




### У Касцёле чатыры новыя святыя

***З удзелам тысяч вернікаў з усяго свету падчас св. Імшы на плошчы св. Пятра папа Францішак абвясціў святымі чатыры манахіні, якія жылі ў XIX і на пачатку XX стагоддзя.***

*Гэта дзве палестынкі: Марыя (Марыям) Бавардзі – кармелітка босая, і Марыя Альфонсіна Даніл Гатас, а таксама француженка Жана Эмілі дэ Вільнёў і італьянка Марыя Крысціна Брандо. За выключэннем Бавардзі, астатнія сёстры былі заснавальніцамі жаночых манаскіх супольнасцей. Партрэты ўсёй чацвёркі віселі на франтоне базілікі св. Пятра.*

CatholicNews.by

### Акрываўленая сутана св. Яна Паўла II перададзена ў Кракаў

***У 34-ю гадавіну замаху на жыццё Папы Рымскага Яна Паўла II, яго асабісты сакратар кард. Станіслаў Дзівіш перадаў у санктуарый св. Яна Паўла II у Кракаве бясцэнную рэліквію.***

*Гэта акрываўленая сутана, у якую святы Ян Павел II быў апрануты 13 мая 1981 года. У гэты дзень падчас агульнай аўдыенцыі на плошчы св. Пятра забойца Мехмед Алі Агджа паспрабаваў забіць Папу.*

***Кінга Красіцкая***

## Кс. бп Юзаф Станеўскі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі ў Гродне

*24 мая ў гродзенскай парафіі св. Францішка Ксаверыя дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі падчас святой Імшы ўдзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам парафіі і студэнтам з Нігерыі.*



У словах, скіраваных да кандыдатаў, біскуп, кажучы пра ўрачыстасць Спаслання Святога Духа, якая адзначалася ў гэты дзень, падкрэсліў моц уздзеяння Божага слова на чалавека. Таксама іерарх заклікаў вернікаў памятаць пра малітву, пра шчыры дыялог з Богам, які заўсёды прыносіць свой плён.

На завяршэнне набажэнства бп Юзаф Станеўскі і пробашч парафіі кс. Ян Кучынскі падзякавалі ўсім прысутным, асабліва бацькам за працу ў выхаванні дзяцей і клопат аб іх духоўным развіцці.

## Адбылася сустрэча катэхетаў Гродзенскай дыяцэзіі

*Падчас сустрэчы быў падсумаваны 2014–2015 катэхетычны год у дыяцэзіі. Для катэхетаў гэта таксама быў час абмену досведам, атрыманым з катэхізацыі дзяцей і моладзі, і роздуму над пройдзеным перыядам.*



На сустрэчу прыбыло каля 50 святароў, манаскіх сясцёр і свецкіх катэхетаў, якія штодзень служаць сярод дзяцей і моладзі, займаючыся іх навучаннем і рэлігійным выхаваннем. Сабраных прывітаў а. доктар Андрэй Шчупал CSsR – дырэктар аддзела навучання і выхавання Гродзенскай курыі. У сваім слове святар адзначыў, наколькі вялікая сёння роля катэхета, галоўным заданнем якога з'яўляецца весці чалавека да сустрэчы з Богам.

Таксама ўдзельнікі выслухалі два рэфераты. Першы прадставіў а. Ян Асіповіч SP, распавёўшы ў ім аб педагогіцы св. Юзафа Каласанса. Харызма айцоў піяраў – праца з дзецьмі і моладдзю, якія з'яўляюцца будучыняй кожнага народа і Касцёла. Другі рэферат прадставіла с. Аліцыя Шадурская SSND, якая казала пра важнасць хрысціянскага выхавання ў самым малодшым узросце.

Сустрэча катэхетаў завяршылася св. Імшой у гродзенскім рэктаральным касцёле Звеставання НПМ, якую ўзначаліў біскуп Аляксандр Кашкевіч.

## “Стаць для іншых святлом, якое ўмацуе іх у веры”

*Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзяліў сакрамант канфірмацыі 40 вернікам парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Гродне. Сакрамант вернікі прынялі ў асаблівы час – час чакання ўрачыстасці Спаслання Святога Духа.*



Сакрамант канфірмацыі такі ж важны, як і іншыя. Яго прымаюць у дарослым узросце для таго, каб чалавек станавіўся сапраўдным вызнаўцам Езуса Хрыста і мог заўсёды абараніць веру. Пра абавязак абвяшчэння Евангелля Хрыста біскуп Аляксандр Кашкевіч прыгадаў у гаміліі.

Іерарх таксама пажадаў кандыдатам, каб яны ўсім сэрцам давяралі Езусу і “імкнуліся за Ім да таго, што добрае, прыгожае і ўзнёслае”.

На заканчэнне Эўхарыстыі вернікі падзякавалі іерарху і святарам, якія рыхтавалі іх да гэтага дня, а таксама сваім родным, якіх назвалі сваімі сведкамі веры.

## 100 дзяцей у шчучынскай парафіі прынялі Першую Камунію

*Першакамунійную ўрачыстасць узначаліў пробашч парафіі а. Вітольд Пяцельчыц SP. Святар нагадаў дзецям аб вялікім дары, які Хрыстос удзяліў ім у гэты дзень, і заахвоціў да частага прыняцця святой Камуніі.*



Да прыняцця Першай Камуніі дзеці ў шчучынскай парафіі рыхтаваліся два гады. Падрыхтоўка адбывалася не толькі праз штотыднёвую катэхезу, але і дзякуючы разнайстайным набажэнствам і рэкалекцыям на працягу навучальнага года. Пасля заканчэння катэхетычных заняткаў кандыдаты да Першай Камуніі здалі невялікі экзамен па катэхізісе.

## АНОНСЫ

### Бацькі сем'яў запрашаюцца ў пілігрымку з Гродна ў санктуарый у Капцёўцы

**По традыцыі першая нядзеля чэрвеня ў Гродзенскай дыяцэзіі адзначаецца як Дзень бацькі. У гэты дзень усіх вернікаў заахвочваюць да малітвы ў інтэнцыі бацькаў сем'яў.**

Адна з форм выражэння малітоўнай памяці пра бацькаў – пешая пілігрымка з Гродна ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай на Узгорку надзеі ў Капцёўцы, якая ў гэтым годзе адбудзецца 7 чэрвеня. Да ўдзелу ў пілігрымцы запрашаюцца асабліва бацькі сем'яў, іх жонкі і дзеці.

**Праграма**
**Дыяцэзіяльнага дня бацькі:**

07.00 – святая Імша на распачацце пілігрымкі ў гродзенскім касцёле Маці Божай Анёльскай (францішканскі);
08.00 – выхад пілігрымаў;
12.00 – вітанне пілігрымаў кусташам санктуарыя на Узгорку надзеі ў Капцёўцы;
12.00–13.00 – адпачынак і гарбата;
13.00 – Вяночак да Божай Міласэрнасці;
13.15 – канферэнцыя;
14.00 – Крыжовы шлях;
15.00 – святая Імша;
16.30 – ад'езд аўтобусамі ў Гродна.



*У пілігрымку і на ўрачыстасці ўсіх сардэчна запрашае кусташ санктуарыя ў Капцёўцы кс. Міхал Ластоўскі.*

### Родная парафія Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча адзначыць юбілей



**12–13 чэрвеня парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Адэльску будзе святкаваць юбілей 525-годдзя.**
**12 чэрвеня ў 22.00 у парафіі адбудзецца св. Імша ў вігілію свята.**
**13 чэрвеня адбудзецца св. Імша ў 9.00 і галоўная Імша ў 12.00.**

*Сардэчна запрашаем да ўдзелу ва ўрачыстасцях!*

### Сардэчна запрашаем!

**13 чэрвеня 2015 года а 13-й гадзіне адбудзецца ўрачыстасць кансэкрацыі касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.**

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### *Ці прынялі Вы сакрамант канфірмацыі?*




*У чарговым апытанні нас цікавіла пытанне, ці клапоціцеся Вы пра сваё рэлігійнае выхаванне і духоўнае развіццё. Сакрамант канфірмацыі з'яўляецца сакрамантам духоўнай сталасці. Большасць рэспандэнтаў сцвердзіла, што ўжо прыняла сакрамант канфірмацыі. Але галоўнае – памятаць пра дары Святога Духа, якія чалавек атрымлівае падчас гэтага сакраманту і дзякуючы якім становіцца бліжэй да Бога.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Чарговае апытанне паказвае, што нашыя вернікі клапоцяцца пра сваё рэлігійнае выхаванне. У маі і чэрвені ксяндзы біскупы ўдзяляюць сакрамант канфірмацыі ў розных кутках нашай дыяцэзіі. Сярод бежмаваных часцей за ўсё можна сустрэць моладзь, але ёсць таксама і старэйшыя людзі. Вельмі добра, што мы хочам запрасіць Святога Духа ў нашае жыццё. Варта запамятаць, што без дапамогі Святога Духа мы не можам ні маліцца, ні жыць паводле Евангелля. Мы з'яўляемся членамі Касцёла, а таму просім дароў Святога Духа і нястомна молімся аб узмацненні нашай веры.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**1 чэрвеня 1964 г. –** кс. Францішак Кафарскі, *проб. Іўе;*
**8 чэрвеня 1981 г. –** кс. Юзаф-Мар'ян Марсангер SJ, *проб. Солы;*
**10 чэрвеня 1998 г. –** кс. прэлат Міхал Варанецкі СМ, *ген. вік., першы духоўны айцец Гродзенскай ВДС.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

